


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 4-5 (57-58)
КАСТРЫЧНІК ЛІСТАПАД 2007 г.



# Жывапіс Яна Рыдзікі

**У нумары:**



## Выстава ў Музеі традыцыйнай культуры, прымеркаваная да 70-гадовага юбілею мастака з вёскі Барадзінічы.

Пра такіх людзей, як Ян Рыдзіка, часта кажуць - творца ад Бога. Можна было б пашукаць якія іншыя словы, але гэты выраз надзвычай трапны і вельмі пасуе да яго асобы. Прага да творчасці - неад'емны складнік характару Яна Рыдзікі, які аказаўся мацнейшым за ўсе жыццёвыя абставіны, перашкоды. Душа такога творцы ведае толькі кароткія хвіліны супакою, калі рэалізавана чарговая задумка, калі закончаны твор. А за гэтай хвілінай - гадзіны думак, роспачы, радасці працы. І так да бясконцасці, пакуль доўжыцца жыццё.

Часам можна сустрэць - самадзейны мастак, вясковы інтэлігент. Здаецца, гэта не правільна. Пры ацэнцы мастака трэба ў першую чаргу зважаць на яго талент, агульную культуру, шчырасць. Ян Рыдзіка - сапраўдны мастак, які знаходзіцца ў пастаянным пошуку, здольны да самаацэнкі. А яшчэ Ян Рыдзіка - інтэлігент, не вясковы, бо такое вызначэнне пазбаўлена сэнсу, а інтэлігент з вялікай літары - адкрыты да людзей, сціплы, тактоўны, чалавек высокай культуры, які бязмежна любіць і сваю малую Бацькаўшчыну - Браслаўшчыну, і краіну свайго народа - Беларусь.



Браслаўскі музей ганарыцца супрацоўніцтвам з Янам Рыдзікам. Гэта сумесная праца пачалася ад часу адкрыцця першай экспазіцыі ў 1988 годзе і з таго часу карціны Яна Рыдзікі можна было ўбачыць на дзесятках выстаў. Адбыліся і тры персанальныя выставы. Шырокі розгалас мела выстава на гістарычную тэматыку "Грымотная слава дзядоў", якая была ўрачыста адкрыта 31 ліпеня 2002 года ў выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры. Ніхто з мастакоў не стварыў столькі карцін з гісторыі Браслаўшчыны.

На юбілейнай выставе - 37 палотнаў. Ёсць тут некалькі карцін з серыі "Грымотная слава дзядоў", карціны, звязаныя з творчасцю Максіма Багдановіча, нацюрморты і шмат пейзажаў. Ян Рыдзіка не змог прыехаць на адкрыццё выставы, сказваюцца гады, даюць знаць аб сабе хваробы. Але размову з гледачом вядуць творы мастака - плён яго таленту, шчырага сэрца і шырокай душы.

## З КНІГІ ВОДГУКАЎ ВЫСТАВЫ

Ян Антонавіч! Вялікі дзякуй за вашы працы. Яны цудоўныя... Гістарычную тэматыку трэба працягваць малявацъ таксама.., акрамя Вас ніхто гэта не зробіць.

*(подпіс неразборлівы)*

Ваши картины очень светлые. И Ваша зима на картинах мне очень близка.

*(подпіс неразборлівы)*

Паважаны Ян Антонавіч. Мне спадабалася Ваша выстава. Сам я з горада Полацка, горада-музея. Мне было вельмі прыемна бачыць карціны Полацкай тэматыкі.

*Вярцінскі Павел.*



Уважаемый Коллега
Ян Антонович!

Мои искренние поздравления по случаю экспозиции. Работы очень интересные. А что касается этюдов с натуры - то мне очень понравились осенние пейзажи и "Первый снег". В них много тёплого отношения к нашей скромной природе, и в них есть профессиональная культура.

*Георгий Поплавский,*
*тоже художник*

*(Г.Паплаўскі - народны мастак Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, акадэмік)*

... Вы сапраўдны мастак і за гэта Вам вялікі дзякуй.

*Вучні Ветрынскай школы-інтэрната Алег, Паша, Антон.*

"Папараць-Кветка". Чароўна! Дзякуй!

*Кацярына. Менск.*

# Ян Рыдзіка

## Старонкі біяграфіі.

Ян Рыдзіка нарадзіўся 11 верасня 1937 года ў вёсцы Барадзінічы (у той перыяд - Ёдскай гміны Браслаўскага павета), дзе жыве і працуе па сённяшні час. Бацька мастака - Антон Паўлавіч (1899 - 1979 гг.), быў чалавекам вядомым і шануемым у наваколлі, актыўным у грамадскім жыцці. Ён з'яўляўся добрым майстрам камінарам, займаўся сельскай гаспадаркай і праз усё жыццё пранёс цягу да творчасці - размалёўваў дываны, спрабаваў свае сілы ў пейзажным жывапісе, займаўся разьбярствам. Змайстраваў сабе скрыпку, на якой навучыўся нядрэнна іграць. У маладосці ўдзельнічаў у тэатральных пастаноўках, якія ладзіла беларуская моладзь. Творчыя захапленні Ян Рыдзіка атрымаў менавіта ад бацькі. Хлопец вучыўся ў Барадзініцкай школе, сярэднюю адукацыю атрымаў у Ёдах. Выявіў здольнасці да малявання і таму хацеў падацца ў Мінскае мастацкае вучылішча, аднак рэалізаваць задумку не дазволіў сціплы бюджэт сялянскай сям'і. Ян Рыдзіка паступіў у Гродзенскі сельгасінстытут і ў 1960 годзе атрымаў спецыяльнасць агранома. Падчас навучання наведваў студыю выяўленчага мастацтва. Самастойнае жыццё пачынаў аграномам на Гродзеншчыне, а праз два гады стаў настаўнічаць у Мёрскім раёне. У 1966 г. ён завочна закончыў Віцебскі педагагічны інстытут па спецыяльнасці настаўніка біялогіі і сельгаспрацы. Да пенсіі працаваў у сваёй роднай Барадзініцкай школе, якая пазней стала называцца Мількаўскай. Ян Рыдзіка распрацаваў і выканаў арыгінальнае афармленне кабінета біялогіі, аздобіў школьны вестыбюль галерэяй партрэтаў "Славутыя людзі Беларусі", больш за 10 гадоў працаваў над экспазіцыяй адзінага на Браслаўшчыне школьнага музея прыроды, вёў заняткі па выяўленчаму мастацтву і аднаведны гурток. Вольная хвіліна заўсёды аддаецца любімай справе - жывапісу. Малюе пераважна алеем, спрабуе сябе ў розных накірунках: партрэт, нацюрморт, ілюстрацыі да кніг, карціны на гістарычныя тэмы, пейзаж. Сваім прызваннем лічыць усё ж такі пейзажны жывапіс. Найвялікшай асалодай для мастака з'яўляецца праца над эцюдамі. Ян Рыдзіка - цікавы суразмоўца, шмат чытае літаратуры па гісторыі мастацтва, гістарычнай, філасофскай, займаецца музыкай. Ён з'яўляецца сябрам Браслаўскага музея ад часу заснавання. Удзельнік мноства выстаў, у тым ліку прысвечаных 500-годдзю Францыска Скарыны (1990 г.), 200-годдзю паўстання 1794 г. (1994 г.), 935-годдзю Браслава (1995 г.), традыцыйных выстаў "Восеньскі салон". Музей арганізаваў некалькі персанальных выстаў Яна Рыдзікі: "Талент шчодрага сэрца" (1997 г., да 60-годдзя мастака), "Кветкі Яна Рыдзікі"(1998г.).





# Асобныя звесткі пра продкаў Яна Рыдзікі

*(паводле радаводу сям'і Рыдзікаў, які ў 2000 годзе склалі ўдзельнікі краязнаўчага гуртка Мількаўскай школы пад кіраўніцтвам Ірыны Максімовіч)*

"Па мячу" (мужчынскай лініі) продкі Я.Рыдзікі паходзяць з ваколіц Іказні, а па "кудзелі" (жаночай лініі) - з в.Жарнэлішкі Опсаўскага наваколля.

Рыдзікі не былі заможнымі сялянамі, аднак мужчыны вылучаліся схільнасцю да майстравання, а жанчыны былі добрымі рукадзельніцамі. Захавалася радавое паданне пра аднаго З Рыдзікаў, які ў "час прыгону" змайстраваў прыстасаванне для падробкі грамат на волю. Мікалай Рыдзіка запомніўся ў наваколлі як добры токар па дрэву, Павел Рыдзіка выраблаў колы для фурманак.




У пачатку XX ст. тры браты Рыдзікі, сыны Паўла, з'ехалі з вёскі ў пошуках працы. Ян апынуўся ў Данбасе, Уладзімір, а пазней Антон - у Санкт-Пецярбургу. Ян і Антон пасля 1917 г. вярнуліся ў родныя мясціны, а Уладзімір застаўся ў сталіцы. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён загінуў пры блакадзе Ленінграда.

Антон, бацька Яна, нарадзіўся ў 1899 г. На ваенным заводзе ў Піцеры працаваў токарам. Калі наступіў голад, вярнуўся дахаты. З сабой прывёз падшыўку часопіса "Природа и люди", які вельмі любілі чытаць у будучай яго сям'і. У 1924 годзе Антон ажаніўся з Яўгеняй Васючонак. Гаспадарка маладых налічвала 3 гектары, якіх не хапала для ўтрымання сям'і. Антон Рыдзіка авалодаў прафесіяй мурніка-печніка і неўзабаве стаў прызнаным майстрам. Прымаў удзел у будоўлях у Браславе (у тым ліку будынак старосты, сучасны райвыканкам, будынак сойміка - сучасная школа мастацтваў), Глыбокім, Горадні. Пасля вызвалення Беларусі ўдзельнічаў у аднаўленні Мінска. Печкі працы Антона Рыдзікі можна сустрэць яшчэ і цяпер.



**Удзячны ліст Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім універсітэце на імя Антона Рыдзікі за найлепшы этнаграфічны матэрыял. 1935 г.**

У даваенныя часы захапляўся размалёўкай дываноў. Яго вырабы былі папулярнымі ў наваколлі. Кніжка замоў з сямейнага архіва ўтрымлівае звыш 200 прозвішчаў. Трохі пазней стаў пісаць алейнымі фарбамі і пейзажы.

Антон Рыдзіка быў добрым сталярам. Выраблаў па замове шафы, канапы, сталы, кросны. Напрыканцы 50-х гадоў XX ст. захапіўся разьбярствам. Выраблаў куфэрачкі, парттабакі і іншыя рэчы, аздобленыя разьбой. Вырабіў скрынку, на якой сам спаў да самай смерці. Творы Антона Рыдзікі можна ўбачыць у экспазіцыі гісторыка-краязнаўчага музея і музея рамёстваў.

А.Рыдзіка займаўся фотаздымкамі. Захаваўся яго апарат "Кодак" і альбом здымкаў.

Вылучаўся прыроднай адукаванасцю, меў прыгожы почырк, меў вялікую бібліятэку, выпісваў навукова-папулярныя часопісы. У даваенны перыяд удзельнічаў у беларускай культурна-асветніцкай працы.

Памёр Антон Рыдзіка ў 1979 годзе.

# Азёрная калыска Браслава

## (Раздзел з ненадрукаванай кнігі)

Кастусь Шыдлоўскі

Ёсць шмат вёсак і гарадоў, якія прытуліліся да азёрных берагоў. Каля вады чалавек заўсёды адчуваў сябе больш надзейна і ўпэўнена. На Браслаўшчыне ад старых людзей, які перажылі не адно ліхалецце, можна пачуць прыказку аб тым, што ў самыя цяжкія часіны чалавек цягнецца да возера і да леса, з імі, маўляў, не прападзеш. Аднак Браслаў не проста азёрны горад, ён размешчаны ва ўнікальным прыродным асяроддзі. Зірніце на больш менш падрабязную карту. Сучасная гарадская забудова знаходзіцца на шматлікіх міжазёрных перашыйках. Ушчыльную да межаў Браслава прымыкаюць сем азёраў, а на адлегласці да 10 кіламетраў іх налічваецца пад 30. Браслаў размешчаны на пагорках. Уздоўж возера Дрывяты, праз увесь горад расцягнуўся ланцуг лімнакамаў - пагоркаў, утвораных у выніку назапашвання пяску і жвіру ў пустотах ледавіковага панцыра. Гэты панцыр у пасляледавіковую эпоху перагарадзіў шлях талым водам і спрыяў утварэнню самага вялікага на Браслаўшчыне возера Дрывяты (плошча воднай паверхні 36,1 кв. км. ). Возера фармуе своеасаблівае аблічча Браслава, забудова якога расцягнулася ўздоўж паўночнага берага больш чым на тры кіламетры. Пры заснаванні забудова абмяжоўвалася адным высокім пагоркам на вузкім перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята.



Поўны шчіль. Здымак 1930-х гг.



**Белым колерам пазначана возера Дрывяты, шэрым - паверхня возера пасля таяння ледавіка. Адзначым, што вада тады залівала значныя тэрыторыі на поўдзень, дзе цяпер балотныя і лясныя масівы. Возера Пагошча было часткай Дрывятаў. Часткай Дрывятаў былі таксама азёры Цно і Навята. Тут вылучаўся вялізны востраў, які ўмоўна назавем Браслаўскім. Яшчэ адзін востраў існаваў у раёне сучаснай вёскі Разета.** ***Схема з працы польскага географа Е.Кандрацкага. "Studia nad morfologia i hidrografia Pojezierza Braslawskiego". Warszawa.1938***

З двух бакоў вада плёскалася ля самай падэшвы пагорка. Пад шоргат азёрсых хваляў спакайней адчувалі сябе жыхары Браслава ў трывожныя часы сярэднявечча.

Сярод браслаўскіх старажылаў ходзяць пагалоскі, што некалі даўно паселішча знаходзілася на востраве, а старажытныя ваяры пільна сачылі за бродамі на падыходах да Браслава. Сучаснаму жыхару горада такія пагалоскі падаюцца цалкам фантастычнымі. Але не будзем спяшацца. Успомнім, што да XX ст. ўзровень Браслаўскіх азёраў быў вышэйшы, і пройдземся па браслаўскаму наваколлю. І цяпер добра відаць, што з поўдня, усходу і паўночнага ўсходу даўняе паселішча мела воднае абмежаванне. На ўсход ад возера Навята знаходзіцца забалочаная нізіна. Яшчэ напачатку XX ст. пры паводках нізіна цалкам залівалася і злучалася з возерам Цно і ракой Друйкай. Відавочна, што у пасляледавіковы перыяд гэта тэрыторыя была азёрным залівам. Прычамсі, тут захавалася некалькі рэліктавых азёркаў. На захад ад возера Навята таксама была нізіна, асушаная ў XX ст., на заходняй ускраіне яна заканчвалася невялікім азярцом. Жыхары Браслава называюць гэтае месца забруджанае і зарастаючае возера Школьным. Ад возера Дрывяты Школьнае аддзяляе пясчаны перашыек. Калі б не ён, то воднае кальцо вакол старажытнай браслаўскай тэрыторыі замкнулася б. Ёсць сведчанні, што пясчаны перашыек сфарміраваўся ў нядаўнюю пару пры пераносе пяску ветрам. Пры земляных працах, тут на даволі значнай глыбіні знаходзілі рэшткі азёрнай расліннасці і ракавіны. Такім чынам, у сярэднявеччы Браслаў мог быць астраўным паселішчам! Дарэчы на некаторых картах XVI ст. Браслаў так і адлюстроўваўся. Праўда, гэта магло быць картаграфічным спрашчэннем азёрнага наваколля.

Сучаснаму Браславу цесна ў сваёй азёрнай калысцы. Гарадская тэрыторыя даўно ўжо выйшла за межы азёрнага перашыйка, забудова займае ўсё большыя плошчы, а тут - у які бок не будуйся - усюды азёры. Возера Навятя ахоплена



**"Nawer Lanus" (Возера Навер) - так памылкова назваў возера Дрывяты Зыгмунт Герберштэйн, які ў 1517 г. праехаў праз Браслаў. Гэту назву пазней доўга ўжывалі еўрапейскія картографы.** ***Фрагмент карты Еўропы Г.Меркатара. 1572 г. Дуйсбург***



**Ганарлівая Дрыва знаходзіць вечны супакой у возеры, якое пасля назвалі Дрывяты. *Фрагмент ілюстрацыі Георгія Паплаўскага да "Легенды аб Браславе".***

забудовай нібыта ціскамі, яно задыхаецца ў гэтых абдымках. У вадзе ўсё менш кіслароду, колер возера рэдка бывае прыгожым сінім, ён болей бледнаваты, як твар чалавека, што пакутуе ад недахопу паветра. Шчыльна забудаваны значныя кавалкі берагоў возера Бярэжа. Суседства з горадам - не на карысць азёрам, яны пакутваюць ад сцёкаў, іншага забруджвання. Яшчэ на пачатку XX ст. жыхары Браслава ужывалі



***Бітва на беразе возера паміж Міндоўгам і яго мяцежнымі сынамі ў 1244 г.***



**Возера Дрывяты у часы, калі Браслаў быў латгальскім паселішчам. VIII-IX стст.**

***Дрывaрыты Уладзіміра Кандрусевіча***

ваду з возера Дрывяты для падрыхтоўкі гарбаты. Лічылася, што азёрная вада надае гарбаце прыемны, непаўторны смак.

Як далей будуць суіснаваць Браслаў і азёры, пакажа час. Аб тым, што гэта пытанне турбавала людзей і раней, сведчыць цікавы факт. У 1554 г. было складзена першае больш-менш падрабязнае апісанне (інвентар) Браслава. Горад налічваў у той час 110 дамоў. Складальнікам апісання падалося, што паселішча магло б быць большым, калі б развіццю не перашкаджалі азёры. Яны так і запісалі ў інвентары, што горад не можа быць вялікім "*для*



**Браслаў - паселішча на востраве вялізнага возера. *Фрагмент карты Полацкай зямлі Ст.Пахалавіцкага. 1579 г.***

(з **прычыны - К.Ш.**) *озер Дривяты и Новята и для горы, на которой Замок, под которым около место осело.*" Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы, якая неўзабаве была праведзена ў Вялікім княстве Літоўскім, Браслаў станавіўся цэнтрам павета Віленскага ваяводства. Што зрабіць для таго, каб азёры не перашкаджалі развіццю горада? Кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст у 1559 г. выдае наступнае распараджэнне браслаўскаму старосце Юрыю Остыку: "*пишешь до нас ижъ место наше Браславское на местцу небеспечном збудовано чого есть потреба абы оное местцо на иншое местцо перенесено было...*" У распараджэнні ўзгадваецца дваранін Абрам Кунцэвіч, які прыязджаў у Браслаў на рэвізію і нагледзеў больш зручнае месца "*над озером на усти где порт и дорога быти можеть безъ жадного омешканья.*" Верагодней за ўсё Купцэвічу спадабаўся заходні, даволі высокі бераг возера са слабаўзгорыстым зручным для забудовы рэльефам (у наваколлі сучаснай в.Красносельцы). Адсюль на захад віленская дарога мела адгалінаванне на Курляндыю. А можа трэба звярнуць увагу на словы "*на усти*". Магчыма зручнае месца для горада нагледжана было пры вусці Друйкі. Стаяць сучаснаму Браславу на іншым месцы, калі б распараджэнне было б выканана. Аднак па нейкіх прычынах засталося яно толькі на паперы. Хаця дакумент прадугледжваў пачаць перанос неадкладна з 1559 г. "*без жадного омешканья.*" Для перасяленцаў прадугледжваліся льготы: трымальнікі шынкаў вызваляліся ад уплаты капшчызны на 6 гадоў. У той час шынкі трымалі многія ўладальнікі сяліб (на 110 дамоў - 40 шынкаў).




**Да XIX ст. возера Дрывяты на картах пазначалася адвольным контурам. *Фрагмент карты з "Атласа Польшчы" Я.А.Рызі Заннoні. 1772 г.***

Браслаў застаўся на старым месцы. Не азёры, а шматлікія войны, эканамічныя праблемы стрымлівалі рост горада, памеры якога часам сціскаліся да некалькіх дзесяткаў сяліб. Праз стагоддзі зменлівай гісторыі Браслава побач заўсёды знаходзілася вялізная чаша возера Дрывяты. Падарожнікі ў сваіх нататках маглі нават не адзначыць паселішча, праз якое пралягаў іх шлях, возера ж было занадта адметным, каб аб ім змаўчаць. Дрывяты - пятае па велічыні возера ў сучаснай Беларусі і належыць да ліку буйнейшых ва Усходняй Еўропе. Прыгожа глядзіцца возера з Браслаўскіх пагоркаў - кіламетры воднага абшару ў атачэнні зеляніны лясоў і палёў. У сваю чаргу доўга можна любавацца Браславам з лодкі, якая паволі гойдаецца



**Возера на схеме другога падзелу Рэчы Паспалітай. *Канец XIX ст.***

на азёрных хвалях. Да берага падыходзіць аднапавярховая забудова. Сярод сяліб вылучаюцца абрысы храмаў, гарадзішча Замкавая Гара. Яшчэ ў 30-я гады, у перыяд першай хвалі турысцкага асваення Браслава, яхтсмены, байдарачнікі, аматары лодачных прагулак па Дрывятах жартаўліва ахрысцілі Браслаў "Паўночнай Ніццай" ці "Паўночным Неапалем" (гарадзішча Замкавая гара тады параўноўвалі з Везувіем). Браслаў даў другую назву Дрывятам. Браслаўскае возера - такое вызначэнне ў гістарычных крыніцах ужывалася ці не часцей. Больш шырока чым цяпер ўжывалі другую назву возера Дрывяты і мясцовыя жыхары. Энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза і Эфрона адзначаў: "*Дривяты - озеро Ковенской губернии Ново-Александровского уезда (при местечке Браслав), называемое Браславским...*".

Зразумела, што назва Дрывяты - больш старажытная, паходжанне яе выводзяць ад балцкіх ці нават фінаўгорскіх моў (Ужыванне формы "Дривляты" і яе асацыяцыя са словам "древле" - (даўно) прыдумка русіфікатараў XIXст.). Паводле аднаго з меркаванняў, назва мае балцкую аснову ў значэнні топкі, вязкі (бераг). Прыхільнікі фінаўгорскай тапанімікі звязваюць Дрывяты з паняццямі "возера", "вада". Ёсць паданне, што ў наваколлі возера калісьці жыло племя дрывяцічаў, якое пазней змяшалася з крывічамі. Нібыта дрывяцічы былі заснавальнікамі Браслава.


Адна з першых адносна дакладных выяў возера Дрывяты ў картаграфічных працах. З рукапіснай карты Браслаўскага павета. Пач. XIX ст.


План возера Дрывяты, выкананы расійскімі вайскоўцамі ў 1816 г. Нанесены дарогі, паселішчы, гідраграфія, лясы, пагоркі. Многія назвы моцна зменены: Роцетта - замест Разета, Цагуры - замест Шакуры, Мезулі - замест Майшулі, Юцірова - замест Пузыры, Зараві - замест Зарачча.

Слядоў дзейнасці старажытнага чалавека ў наваколлі возера Дрывяы знойдзена шмат. На паўночным беразе непадалёку ад Браслава выяўлена неалітычная стаянка Дубкі. Тут, ля самай вады, чалавек жыў каля 5 тысяч гадоў таму. Пад час археалагічных даследванняў знойдзены шматлікія прылады працы з крэменю - наверпы стрэлаў, скрабкі, праколкі, пласцінкі з вострымі краямі, кераміка. Спецыялісты адносяць стаянку да нарвенскай культуры. Яшчэ адна стаянка перыяду неаліта выяўлена на поўдні возера Дрывяты. Ва ўрочышчы Рацкі Бор на паўднёвым беразе возера Дрывяты ёсць гарадзішча Майшулі і некалькі курганных груп. Курганы былі насыпаны ў VI-XI стст. балтамі і славянамі. У адным з курганоў знойдзены рэдкі для Браслава наканечнік кап'я ланцэтападобнай формы, які адносіцца да старажытнасцяў "эпохі вікінгаў". Апошняя знаходка археолагаў - паселішча перыяду жалезнага века на паўвостраве Ушына, выяўлснае ў 2004 г. Пры папярэдніх даследаваннях падабрана шмат керамікі. У наваколлі турбазы "Браслаўскія азёры", на паўвостраве Рог, адзначана існаванне аб'ектаў, звязаных з язычніцкімі ўяўленнямі. Непадалёку ад возера Дрывяты, у пачатку паўвострава ляжала некалькі камянёў сярэдніх памераў. Паданне кажа, што на гэтым месцы стаяла невялікая царква і нібыта яна згарэла ад маланкі ці правалілася пад зямлю. У іншыні часам можна пачуць гул званоў пад зямлёй. Зрэдку каля камянёў з'яўлялася чародка авечак на чале з баранам. Трохі далей на схіле высокага берага возера Дрывяты ляжаў вялікі валун. Уся яго паверхня была ў шчэрбінах і трэшчынах. Казалі, што ў камень часта біла маланка (Пярун) і таму ён такі пабіты. Частку паверхні камяня пакрываў мох. Гэты мох лічылі гаючым, асабліва ад хвароб страўніка. Усе гэтыя камяні ў 60-70 гады былі выкарыстаны на будаўнічыя патрэбы. Захаваўся вялікі валун, які знаходзіцца ў вадзе каля паўднёва-заходняй ускраіны Рога. Камлыга выступае з вады ў залежнасці ад узроўню возера. Пры высокім узроўні ён цалкам знікае пад вадой. Мясцовыя жыхары верылі, што валун расце, аднак яму перашкаджаюць маланкі. Дзецям, якія побач часта пасвілі жывёлу, забаранялі залазіць на валун, каб не забіў Пярун, з гэтай прычыны асцерагаліся падганяць блізка жывёлу. Ва ўсіх згаданых паданнях прасочваюцца рэшткі паганскіх уяўленняў, звязаных з культамі Перуна і Вялеса. На мелкаводдзі, на берагах возера можна адшукаць знакі прысутнасці старажытнага чалавека ў тутэйшых, спрыяльных для жыцця мясцінах - гэта аскепкі керамікі, каменныя сякеры, вырабы з крэменю, манеты. Хто ведае, што хавае возера ў сваіх глыбінях? Згадаем некалькі гістарычных падзей, звязаных з возерам Дрывяты.


Возера Дрывяты з плана маёнтка Браслаў. 1858 г. Верхняя лінія адбівае частку возера, якая дакладна належала дзяржаве. Ніжэй знаходзіцца лініі спрэчных частак з уладальнікамі маёнтка Бяльмонты.


На гэтым плане 1851 г. як дзяржаўнае ўладанне пазначана ўся паўночная частка возера.

У вершаванай хроніцы гісторыка XVI стагоддзя Мацея Стрыйкоўскага "Пра пачатак, паходжанне, мужнасць і грамадскія справы слаўнага народу літоўскага, жамойцкага і рускага" ёсць апісанне бітвы пад Браславам паміж Міндоўгам і яго сынамі - Таўцівілам і Вікінтам, якая адбылася ў 1244. Міндоўг сабраў у сваё войска лепшае рыцарства і рушыў з ваярамі да месца бітвы:

*Восъ прывёў ён іх пад возера Браслаўскае глыбокае*
*Пры якім вольна раскінулася поле шырокае*
*Дзе шматлікія пагоркі і лагчыны стаялі гола.*
*Толькі зрэдку дзе дубровы аздаблялі наваколле.*

Хаўруснікамі Таўцівіла і Вікінта былі крыжакі і ваяры полацкага князя.

М.Стрыйкоўскі малюўніча апісвае жорсткую сечу:

*Зямля задрыжэла, а неба раздалося ад крыку.*
*Параненыя енчуць, коні іржуць, грукат зброі на кожным кроку.*
*Стрэлы са свістам, як дождж, з лукаў крывых вылятаюць*
*Адны з арбалетаў цэляць, а тыя з прашчы камяні выпускаюць.*

Войска Міндоўга атрымала перамогу, шмат ваяроў праціўніка пры адступленні патанула ў возеры: "Патопам іх возера Браслаўскае і зараз вядома". На пясчаных пагорках паўднёва-ўсходняга берага возера Дрывяты пяць дзён у 1812 г. прастаяў паходны лагер французскага корпуса пад камандаваннем М. Нэя. Жаўнеры "Вялікай арміі" пакутвалі ад крываўкі, якая набывала памеры эпідэміі. Маёр фон Каўслер, удзельнік пахода ўспамінаў: "*15 ліпеня мы пакінулі бівак каля м. Дрысвяты і ўвечары прыбылі да Браслаўскага возера. На беразе возера пры Рацкім Мосце мы разбілі лагер. Тут мы заставаліся да 19 ліпеня з-за крываўкі... Хвароба моцна папатрапала і апустошыла нашы шэрагі. Смяротныя зыходы былі настолькі імклівымі, што людзі паміралі пад час пераходаў ці на адпачынку без папярэдніх небяспечных сымптомаў*". Здаровае прыроднае асяроддзе, відаць, пайшло на карысць французам, але нейкая іх частка знайшла апошні прытулак на азёрным беразе. Курганы ў суседнім урочышчы Рацкі Бор мясцовыя жыхары з тае пары называюць французскімі магіламі.



**Возера на расійскай карце пач.ХХ ст. Картографы напісалі - "Дрысвяты". Памылка, якая давопі часта сустракаецца ў выданнях ХІХ- пач.ХХ стст.**



**Рыбацкая арцель з воз.Дрывяты. Пач.ХХ ст.**

У блакітным люстэрку Браслаўскага возера адбіліся імклівыя эпізоды паветраных баёў у летнія дні 1941 г. Возера нават прыняла смерць аднаго савецкага самалёта. Успамінае тагачасны жыхар вёскі Пузыры І.Крыжаноўскі: "*У той дзень мы з бацькам лавілі рыбу на лодцы непадалёку ад Рацкага маста. Потым з-за леса з'явіліся самалёты. Два нямецкіх круціліся вакол вялізнага самалёта з зоркамі на крылах. Напэўна гэта быў бамбардзіроўшчык. Чуліся стрэлы. Савецкі самалёт хутка задыміўся і пачаў падаць на возера Дрывяты. Мы бачылі, як ён коламі ледзве не зачапіў востраў, працягнуў трохі, упаў на ваду і выбухнуў... Праз некалькі дзён целы двух лётчыкаў хвалямі прыбіла да берага возера каля в. Шалтэні. Пахаваць іх вырашылі на востраве...*" Цела трэцяга лётчыка возера аддало у наваколлі в.Вязкі. Нейкі час магілы дагледаліся мясцовымі жыхарамі, але потым былі забыты. Невядомы і прозвішчы герояў першых баёў Вялікай Айчыннай. У імянных спісах страт ваенна-паветраных сіл Заходняга фронту значыцца 14 лётчыкаў, якія не вярнуліся з баявога задання ў раёне Браслава. Можа быць свой апошні прытулак на беразе возера знайшоў ленінградзец Георгі Павічкоў, капітан, камандзір эскадрыллі, а можа ўкраінец Сяргей Мірашнічэнка з Палтавы, сяржант, стралок-радыст? Возера зберагае сваю таямніцу. Што да самалёта, то яго рэшткі выцягнулі з-пад вады сяляне яшчэ ў час акупацыі, металічныя дэталі - вялікая каштоўнасць у гэтыя цяжкія часы.



**Стары Браслаўскі рыбак Ваявода. Безліч разоў выходзіў ён на на возера якое ведаў як свае пяць пальцаў. *Здымак Зянона Пазняка.***

А колькі разнастайных назваў звязана з возерам Дрывяты. На ўсходзе вылучаюцца тры залівы, па- мясцоваму лукі (лука - у беларускай мове - дугападобны паварот ракі) - Дукельскі, Разецкі, Турбазаўскі (ужо забылася яго папярэдняя назва - Ушынскі). Ёсць тры астравы: Чайка (раней - Ушын), Вяз, Рацкі ці Пузырскі, два паўастравы: Рог і Ушынскі (на картах ХІХ ст. апошні пазначаны пад назвай Бона). Згадаем, што была такая каралева польская і вялікая княгіня літоўская італьянскага паходжання. (Размешчаным непадалёку ад паўвострава маёнткам Бяльмонты напрыканцы XVIII - пачатку XIX ст. валодалі італьянцы Мануцы). Усё гэта найбольш прыкметныя назвы. Самае вялікае сховішча тапанімікі звязана з падводнай часткай возера. Для большай часткі людзей, якія бываюць на возеры, рэльеф дна не мае асаблівага значэння. Але існуе каста абраных, якія арыентуюцца сярод пагоркаў і паніжэнняў прыдоння не горш знаўцаў браслаўскіх вуліц і завулкаў. Размова пра рыбакоў. Для паспяховай рыбалкі заўсёды істотна было ведаць, дзе размяшчаюцца мелі, ямы, нагрувашчванні камянёў, участкі, зручныя для лова невадам ці тоні. Сярод мясцовых рыбакоў такія звесткі перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Калі сучасны знаўца возера пералічвае вам Дрывяцкія назвы, хто ведае, можа, яны ўжываліся шмат стагоддзяў таму. Адных толькі назваў меляў - дзесяткі. Напрыклад: Белая дарога, Святая, Чарапы, Пруска, Акменіца (у перакладзе з літоўскай мовы - каменная). Рабрына, Глінка, Залаты Пагорак, Малка, Нарычка, Нарачанка, Замкавая. На жаль, нават самыя дасведчаныя рыбакі не могуць растлумачыць іх паходжання, на рыбацкае шчасце гэта ніяк не ўплывае.

Возера Дрывяты было карміцелькай для пакаленняў жыхароў Браслава. І не толькі. Браслаўская рыба даходзіла і да іншых гарадоў. У 90-х гадах ХІХ стагоддзя агульны штогадовы вылаў рыбы на Браслаўскім возеры склаў да 6 тысяч пудоў. З вялікім прыбліжэннем можна ўявіць тую колькасць рыбы, якая была здабыта на тутэйшай блакітнай ніве за тысячагадовую гісторыю Браслава.

Пры даследванні браслаўскага гарадзішча знойдзены даўнія рыбалоўныя прыстасаванні - кручкі, восці, грузілы і паплаўкі для сетак(XI-XIII стст). Сярод кручкоў трапляюцца масіўныя для жорліц і перамётаў, якія ставілі на вялікую рыбу. Некаторыя цікавыя звесткі пра рыбалоўства ў XI-XIII стст. атрыманы падчас раскопак суседняга гарадзішча Маскавічы на беразе возера Несціш. Там знойдзены рэшткі 13 відаў рыб, у тым ліку адзіная ў Беларусі знаходка сярэднявечнага вугра, а таксама рэдкага балтыйскага асятра. У асноўным здабывалі шчупака і судака. Сярэдняя вага самоў складала 24 кг., шчупака 2,4 кг., судака 2,3 кг. Усяго за перыяд XI-XIII стст. на гарадзішчы спажыта каля 4 тон рыбы.



**Возера Дрывяты ад в.Вязкі (раён сучаснай турбазы). Пач. 1920-х гадоў. Берагі чыстыя, без раслiннасці.**

У перыяд Вялікага княства Літоўскага возера Дрывяты, як і Браслаў, адносілася да вялікакняжацкіх уладанняў. Ёсць звесткі аб існаванні Браслаўскага невадніцтва - гаспадарчага комплекса, у якім была наладжана эксплуатацыя азёраў, аллоў рыбы для забеспячэння патрэб двара і атрымання прыбыткаў. Невадніцтва згадваецца ў дакументах XVI ст., яно прыносіла значны даход у скарб. Мяшчанам і сялянам у гаспадарскіх азёрах рыбу лавіць дазвалялася толькі дробнымі прыладамі. У пазнейшыя часы невадніцтва, відаць, згубіла сваё значэнне. Эксплуатацыя возера Дрывяты адбывалася ў межах Браслаўскага староства (той яго часткі, якая звалася Укольскае войтаўства). У канцы XVIII ст. даход ад возера ацэньваўся ў 2200 злотых, а ўсяго староства - каля 32 тысяч. Пры расійскіх уладах, у пачатку XIX ст. возера было прыватызавана. Уладальнікамі ўсходняй і цэнтральнай частак возера (2/3 ад агульнай плошчы) сталі Плятэры (спадкаемцы Мануцці). Іх галоўная рэзідэнцыя на Браслаўшчыне - Бяльмонты з двухпавярховым палацам і вялізным паркам аздабляла ўсходні бераг возера. Трэціна Браслаўскага возера адышла на карысць праваслаўнай царквы. У 1864 г. Ковенскі губернскі камітэт па паляпшэнню быту праваслаўнага духавенства перадаў даход ад рыбнай лоўлі на частцы возера Дрывяты, яшчэ 14 дробных азёрах і 4 рэках прычту браслаўскай царквы. На той час даход складаў 265 рублёў, з якіх 65 рублёў святар павінен быў аддаваць у царкоўную касу, астатняе забіраў святар, з умовай выдаткаваць частку дзяку (псаломшчыку). Паказальна, што даход ад азёраў пастаянна рос, у 1910 годзе ён склаў ужо 2200 рублёў. Узнос жа ў царкоўную касу застаўся на адным узроўні - 65 рублёў. Напрыканцы XIX ст. возера Дрывяты лічылася адным з самых даходных рыбапрамысловых азёраў Ковенскай губерні (12 тыс. рублёў у год). Асобае месца сярод здабываемай рыбы меў судак. За адну тоню рыбакі маглі выцягнуць па некалькі дзесяткаў пудоў. Зафіксаваны выпадак, калі вага аднаго ўлову склала нават 1100 пудоў. Спецыялісты лічылі, што судак з возера Дрывяты мае асобы смак. Вылучалася нават назва "Браслаўскі судак", вядомая ў буйных гарадах, у тым ліку ў Пецярбургу. Уладальнікі некаторых іншых азёраў Браслаўшчыны спрабавалі разводзіць дрывяцкага судака, але безвынікова. Важнейшай прамысловай рыбай лічыўся шчупак, якога ахвотна купляла яўрэйскае насельніцтва. У XIX стагоддзі на возеры Дрывяты трапляліся асобныя экзэмпляры вагой больш за 15 кілаграмаў. Вадзіліся тут і велізарныя самы. Браслаўскае возера славілася значнымі вылавамі рапушкі (сялявы) і снятка. Гэтыя віды добра размнажаюцца ў чыстай, насычанай кіслародам вадзе, на значных глыбінях. І рапушка, і сняток выдатна адчувалі сябе ў возеры Дрывяты. Рыбакам былі вядомы нават асобныя снятковыя тоні. З Дрывятаў сняток трапляў у суседняе возера Навята. За сялявай і снятком рыбакі гатовы былі ганяцца па ўсяму возеру. Безкантрольны вылаў значна падарваў запасы гэтых відаў.

Браслаў ніколі не меў уласнага значнага рыбнага рынку. Буйнейшую і найбольш каштоўную рыбу ў XIX - пач.XX стст. адразу адпраўлялі ў вялікія гарады - Дзвінск (сучасны Даўгаўпілс), Вільню, Санкт-Пецярбург, Варшаву.

Уладальнікі возера звычайна не самі эксплуатавалі яго, а здавалі арандатарам. Самым вядомым арандатарам Браслаўскага возера быў Арон Шнэер. Рыбнай справай займаліся яго бацька і дзед. Захаваўся кантракт паміж А.Шнэерам, яго кампаньёнам М.Эйдэльсонам і прычтам браслаўскай царквы на арэнду рыбнай лоўлі ў царкоўных азёрах і рэках, у тым ліку і Дрывяты ад 15 студзеня 1912 г. У дакуменце ёсць і такія пункты: "... 3) *Арендаторы обязываются давать каждую среду и пятницу священнику и диакону по пять фунтов рыбы каждому, а в пост должны давать по пяти раз в неделю и кроме того священнику четыре пуда рыбы ежегодно и мелкой рыбы для прислуги пять пудов ежегодно и для диакона один пуд хорошей рыбы ежегодно. 4) Запрещается ловить рыбу весною, когда растает лед кроме рек до 15 мая, также запрещается ловить рыбу окладом, бродником и полотном; отверстия в сетках, так называемые глазки, должны быть размером в четверть вершка, кроме сеток на снеток.*"

Арандатар наймаў рыбакоў, арганізоўваў збыт рыбы. Для мясцовых жыхароў рыбная лоўля з'яўлялася дадатковай магчымасцю падзарабіць. Існавалі розныя спосабы аплаты. Напрыклад, плацілі за тоню. На Дрывятах у пачатку XX ст. адна тоня каштавала 15 капеек. Зімой рыбакі паспявалі выцягнуць да 10 тоней, летам - да трох. Пры моцным ветры рыбакі маглі застацца ўвогуле без заробку. Часам арандатар наймаў рыбака за 30-40 рублёў на зімовы сезон са сваім харчам. На беразе дазвалялася есці рыбу без абмежаванняў і забіраць з сабой частку дробязі. Сялянам, якія абслугоўвалі рыбакоў, плацілі 25-35 капеек у дзень, 80 капеек - калі ўжывалася фурманка. Звычайна рыбакі былі аб'яднаны ў адмысловыя арцелі. Зімовы невад абслугоўвалі ад 20 да 60 чалавек, летні - 6. На чале арцелі стаяў самы аўтарытэтны рыбак ("заводнік"), які выдатна ведаў усе тонкасці промыслу і асаблівасці возера. Аўтарытэт заводніка быў бясспрэчны. Добрыя заводнікі цаніліся арандатарамі. Часам іх наймалі на ўвесь год і плацілі да 120 рублёў. Майстэрства заводніка палягала і на тым, каб не сапсаваць снасці. Невады каштавалі вельмі дорага (зімні да 500 рублёў - як ндрэнная вясковая хата). Асаблівай удачай для арцелі лічылася зрабіць "паімку"- гэта значыць выцягнуць незвычайна вялікі ўлоў. У XIX ст. выдаваліся "паімкі" да 1000 пудоў (пераважна судака і ляшча).

Арон Шнэер, шматгадовы арандатар возера Дрывяты, разбіраўся ў тонкасцях промыслу не горш за лепшага заводніка. Ён мог, назіраючы за працэсам вылову, даволі дакладна ацаніць будучы ўлоў. Дарэчы, у гэты час існавала традыцыя, падобная на гульню. Арандатар мог прапанаваць рабочым да заканчэння тоні тую ці іншую суму грошай. Калі рыбы аказвалася болей - у выйгрышы заставаўся арандатар, меней - рыбакі. А.Шнэер быў арандатарам возера Дрывяты і ў 20-30-я гады XX ст. ён меў у Вільні ўласны рыбны рынак і фабрыку рыбных кансерваў "Балтыка". Пасля таго, як была пабудавана аўтамабільная дарога да Вільні, рыбу дастаўлялі з Браслава ў ваяводскі цэнтр машынамі праз 5 гадзін пасля вылову.

Нічога няма дзіўнага ў тым, што багатае рыбнымі запасамі возера Дрывяты неаднойчы было прычынай спрэчак паміж рознымі ўладальнікамі, паміж уладальнікамі ці арандатарамі і жыхарамі навакольных паселішчаў. У канцы XVIII - пач. XIX стст. уладальнікі маёнтка Бяльмонты граф М.Мануцці заявіў прэтэнзіі

на большую частку возера. Па яго загаду каля Рацкага маста і на востраве Вяз былі насыпаны адмысловыя капцы, умоўная лінія паміж якім стала мяжой уладання. Такія дзеянні пазней аспрэчваліся, але граф паводзіў сябе рашуча: "*воспретил на своей половине производить ловлю рыбы до такой степени, что ежели кто осмелится пройти за определенную черту к тому стреляли из ружья.*" Такім чынам вартаўнікі графскіх уладанняў сустракалі чужынцаў. Для сваіх падданых граф таксама ўводзіў разнастайныя абмежаванні. У 1802 г. ён увогуле забараніў сялянам летні лоў рыбы. Тлумачыў сваё рашэнне тым, што сярод сялянаў квітнела браканьерства, што сяляне вынішчылі ўсе нерасцілішчы, што з-



**Бераг возера Дрывяты ў раёне в.Краснасельцы.** ***Паштоўка канца 1920-х гг.***

за рыбы закінулі працу ў полі: " *оне ловя рыбу пропивали денги и чрез оне оставались без хлеба.*" Зімовая рыбалка не забаранялася, аднак граф лічыў, што займаюцца ёй мужыкі неахвотна. Сяляне ў сваіх прэтэнзіях да ўладальніка адзначалі, што яны выкупалі ад арандатара права на рыбалку, а прыбытак ад прададзенай рыбы выкарыстоўвалі на аплату падаткаў. Права на рыбную лоўлю выкупалі і жыхары Браслава, таму і яны ў прэтэнзіях да графа запісалі: " *местечко и его жители просят так как уж другой год летом неотдается озеро на аренду, распространить рыбную ловлю как прежде было на целый год.*"

У другой палове XIX ст. Браслаўская царква, новы ўладальнік часткі возера Дрывяты і шэрагу больш дробных азёраў, забараніла сялянам вёсак Заборныя Гумны і Шакуры лавіць рыбу на ўчастку р. Друйка, які бярэ пачатак з возера Дрывяты. Вусце Друйкі заўсёды славілася як адно з самых рыбных месцаў. У 1877 г. скаргу 16 гаспадароў вёсак разглядаў губернскі суд. Сяляне прайгралі справу, ды яшчэ выплацілі ў скарб штраф памерам 35 рублёў. Царква доўга судзілася з графам Плятарам, які пачаў па возеру Дрывяты і Друйцы сплаўляць лес шарашом. Сплаў дрэнна ўздзейнічаў на рыбу, перашкаджаў лоўлі. Судовая справа цягнулася доўга і невядома чым скончылася. Арандатараў уладальнікі возера ў кантракце падбухторвалі "*не допускать графа Плятера к сплаву лесного материала всевозможными способами.*" Застаецца гадаць, што ж гэта былі за спосабы.

Браслаўскае возера прыгожае і пяшчотнае ў добрае надвор'е можа стаць грозным і страшным у непагадзь. Пры моцным ветры рыбацкія лодкі рабіліся забаўкай для хваляў. Зрэдку бывала, што рыбакі не вярталіся дахаты. Сярод рыбакоў бытавала павер'е, што за шчодры ўраджай блакітнай нівы Дрывяты штогод забіраюць хаця б адну ахвяру. Карэспандэнт губернскай газеты "Северо-Западный телеграф" пісаў у 1913 г. з Браслава: "... *Каждый год местные рыбаки отдают дань озеру. Не проходит года, чтобы кого нибудь не проглотили волны. Старый рыбак Викентий Лонский на днях собрался на озеро. Стояла буря и было опасно ловить рыбу. По старому рыбаку стало скучно без дела. - Поедем - предложил он другому рыбаку Викентию Шаблинскому. Шаблинский отказался, но наконец сдался и оба рыбака поехали. Выехали на утлом челноке на середину озера, закинули сети, потянули. Озеро страшно волновалось и белые гребни подымались на середине и бурно бежали к берегу. Вдруг лодку опрокинуло и оба рыбака полетели в воду, но вскоре выплыли на поверхность воды и поплыли к берегу. С берега увидели, подняли шум. Всем хотелось помочь несчастным, но как помочь? Кто-то отыскал челнок и решился поплыть навстречу. Но вот силы Лонскому изменили и он грузно опустился в воду. Больше не показался. Пока челнок подоспел на помощь волны уже похоронили Лонского. Удалось спасти только одного Шаблинского.*"

Здаралася, возера рыхтавала для жыхароў Браслава і іншыя непрыемныя сюрпрызы. Напрыклад, раптоўны ўздым узроўню вады падчас паводкаў. Адбываецца гэта, праўда, не так часта як на рэках, не набывае катастрафічных маштабаў, але турботаў астаўляе. Архіўнае сведчанне ад адным з такіх выпадкаў у пачатку XX ст.: "... *вада так паднялася што дайшла да*



**Дрывяты хвалююцца.** ***Здымак 1930-х гг.***

*паштовай дарогі ля падэшвы гары з яўрэйскімі могілкамі. Дарога часткова была заліта. Жыхары м. Браслава засведчылі, што ў выніку паводкі пад вадой апынулася паласа агародаў шырынёй 50-60 сажняў (сажань - 2,134 м.), даўжынёй да 4 вёрст (вярста - 1052 м.), прычым вада стала даходзіць да хлявоў і хат, некаторыя пабудовы стаялі ў вадзе...*" У 1930 г. азёрная вада заліла вуліцу Вялікую, якая цягнулася ўздоўж берага возера Дрывяты. Вуліца на фатаздымках нагадвае канал.

У 1929 годзе Браслаў сутыкнуўся з вельмі магутным націскам азёрнага лёду. У тым годзе яго таўшчыня даходзіла да паловы метра, і таяў ён даволі марудна, прычым, як заўсёды, з берагоў. Неўзабаве на азёрных хвалях лагодна гойдалася велізарная - плошчай звыш 30 кв.км. - крыга. У канцы красавіка некалькі дзён запар дзьмуў моцны паўднёвы вецер. Ён пагнаў ледзяную пліту ў бок Браслава. Рух лёду быў павольны, амаль непрыкметны, аднак меў страшэнную сілу. З успамінаў былога браслаўскага старосты З. Янушкевіча: "... *Капітальны драўляны будынак пажарнай варты з залай і сцэнаю быў зняты з падмурка і перанесены на 10 метраў. Зразумела, што коміны, печы, дзверы і вокны былі знішчаны. Лёд знёс яшчэ некалькі дамоў і каля дзесятка гаспадарчых пабудоў... Гасцінец Браслаў-Опса ля Браслава... быў поўнасцю знесены. Утварылася звалка ледзяных глыб вышынёй 6-8 метраў. Сасновы лес за вёскай Заборныя Гумны быў вырваны з каранямі і перанесены на 10-30 метраў далей ад берага. Ніколі не забуду відовішча: старыя магутныя сосны, выдраныя з каранямі, якія перасоўваліся часам стоячы і зняверчаная зямля вакол...*"

У XX ст. чалавек паспрабаваў зменшыць рызыку сюрпрызаў з боку Браслаўскага возера. Яшчэ ў пачатку стагоддзя спецыялісты прыйшлі да высновы, што калі ўзровень Браслаўскай азёрнай групы панізіць да 1 метра, то падтапленняў не будзе. Для гэтага патрабавалася паглыбіць рэчышча ракі Друйка, якая бярэ свой пачатак з возера Дрывяты і праз шэраг азёраў нясе свае воды ў Заходнюю Дзвіну. Ідэя была рэалізавана пасля Першай сусветнай вайны, калі Браслаўшчына ўваходзіла ў склад Польшчы. Летам 1926 г. ў Браславе паўстаў водны каапэратыў, задачай якога была каардынацыя прац па паніжэнню ўзроўня азёраў акумуляцыя

азёраў акумуляцыя грашовых сродкаў. Праект выканалі віленскія спецыялісты. Прадстаяла паглыбіць рэчышча Друйкі на ўчастку паміж вёскмі Вусце і Чэрнева. Для гэтага ў Торуні была пабудавана землечарпалка. Працы распачаліся ў верасні 1929 года. Пасля паглыблення рэчышча вада ў сістэме стала ўбываць. Аднак падзенне ўзроўню пераўзышло праектныя адзнакі, асабліва на возеры Дрывяты, дзе памылка склала каля метра. У наваколлі Браслава адбыліся значныя змены. Вада адышла ад мястэчка на асобных участках на 200-300 метраў. Выйгрыша ад меліярацыі амаль не было, асушаныя землі аказаліся малапрыдатнымі нават для выпасу жывёлы, яны сталі хутка пакрывацца хмызняком. Затое зменшылася турысцкая прывабнасць Браслава. У 30-я гады водны турызм развіваўся на Браслаўшчыне імклівымі тэмпамі, і ад яго можна было чакаць большых прыбыткаў, чым ад сельскай гаспадаркі.

Адным з заўзятых аматараў водных вандровак па Браслаўскіх азёрах быў вядомы турыст-воднік з Варшавы Адам Віслоцкі. У сваёй кнізе "Праз рэкі і азёры Браслаўшчыны" ён падзяліўся ўражаннямі ад возера Дрывяты пасля паніжэння ўзроўню вады: "*Калі выплылі на возера Дрывяты, якое ўжо ведалі па ранейшых вандроўках, адразу заўважылі. што дзеецца з ім нешта нядобрае, што яно хворае і сумнае. Найпрыгажэйшая абліччам, вялізарная чаша вады змянілася да непазнавальнасці. Там, дзе зусім нядаўна водная хваля шумела ля берагоў, цяпер паміж сушай і вадой агалілася даўняе мелкаводдзе, брыдкае і панурае. Не маглі зразумець што здарылася, які катаклізм прымусіў возера ўцячы на большыя глыбіні, з якой прычыны раптоўна паўстаў агідны абруч чвакаючай багны ці пустых каменістых меляў. Ён ахапіў сваімі ціскамі ўсё возера, аб якім з захапленнем успамінаў любы, хто хаця б адзін раз яго бачыў.*"




**Штамп паліцэйскага спартовага клубу "Дрывяты". 1930-я гг.**



**Паўночны бераг возера адступіў больш чым на сотню метраў - вынік меліярацыі.**
***Паштоўка пач.1930-х гг.***

Выдатны гісторык і краязнаўца Браслаўшчыны О.Гедэман з болем зазначаў у адным з лістоў: "... *пазней асушаныя берагі зарастуць і мясцовыя жыхары будуць у гэтых гушчарах пасвіць сваю жывёлу... Браслаў жа ніколі ўжо не будзе Венецыяй, такой мілай для вачэй і жаданай для вандроўніка...*" Праз некалькі дзесяцігоддзяў усе асушаныя прыбярэжныя палосы сапраўды зараслі хмызняком, зніклі пясчаныя пляжы. Паласа гушчару была б і перад самім Браславам, закрываючы панараму на возера Дрывяты, калі б у 50-я гады не ўдалося прыўзняць узровень возера.

З іншых азёраў, якія размешчаны паблізу Браслава, найбольш цесна звязана з гісторыяй горада возера Навята. Аднак расказаць аб ім так як аб возеры Дрывяты немагчыма. Невялікае па плошчы, невыразнае па абліччы, гэта возера заўсёды было ў цені вялікага суседа. Асобна згадваецца возера ў фундушавай грамаце вялікага князя Аляксандра Ягелончыка браслаўскаму касцёлу, выдадзенай 20 кастрычніка 1500 года. Вялікі князь падараваў касцёлу "*озеро нашо, на имя Навето, которое ж подле места Браславского.*" Ніхто не меў права лавіць у ім рыбу "*ни наместник наш..., ани люди наши Браславцы*". Выключэнне рабілася толькі на выпадак прыезду ўладара ў Браслаў: "*коли маем сами быти в Браславли, только в том озере Навете.*"

# Прыбярэжныя паселішчы возера Дрывяты

*Браслаў - самае буйное, але не адзінае паселішча на беразе возера Дрывяты, даўжыня берагавой лінія якога перавышае 40 кіламетраў. На сучаснай карце можна налічыць 9 вёсак, размешчаных побач з вадой: Вязкі, Дубкі, Азяраўцы, Ахрэмаўцы, Разета, Дукелі, Шалтоні, Пузыры, Краснасельцы. Амаль усе гэтыя вёскі невялічкія. Выключэннем з'яўляюцца Ахрэмаўцы - адна з самых вялікіх вёсак усёй Браслаўшчыны, і Краснасельцы, дзе ідзе актыўнае будаўніцтва, а ў перспектыве прадугледжваецца фарміраванне тут браслаўскага мікрараёна індывідуальнай забудовы.*

*У розныя гістарычныя перыяды ад сярэднявечча вакол Дрывят існавала 16 паселішчаў: вёсак, засценкаў і маёнтак Бильмонты. З іх толькі Бяльмонты маюць цікавую, насычаную падзеямі гісторыю. Пра астатнія паселішчы звесткі ўрыўкавыя, не вельмі багатыя. Прывядзём гэтыя звесткі. Запрашаем у гістарычнае падарожжа па беразе возера Дрывяты. Пачнём шлях ад Браслава па стрэлцы гадзінніка.*

* * *

**Заборныя Гумны.** Гэта назва добра знаёмая жыхарам Браслава - так называюць усходнюю частку гарадка ўздоўж шашы на Полацк і Глыбокае. На планах XIX ст. называецца ўрочышчам. Тут у гэтым стагоддзі быў пабудаваны склад з страхавым запасам зерня для браслаўскіх гаспадароў. У пачатку XIX ст. будынак меў памеры 4,5 на 4,5 аршынаў (аршын - 0,7 м). Пазней каля склада ці гумна ўзнікла паселішча. У пачатку XX ст. лічылася вёскай, налічала 117 жыхароў. У 1931 г. называлася калоніяй Заборныя Гумны, мела 31 сядзібу, 192 жыхароў. Напрыканцы 20-х гадоў XX ст. узведзена школа для дзяцей школьнай акругі, у якую ўваходзілі Браслаў і шэраг навакольных вёсак. Цяпер гэта Браслаўская СШ № 3.

**Новы Праект.** Засценак, які існаваў у XIX - пач. XX стст. побач з Заборнымі Гумнамі. Матэрыялаў аб паходжанні назвы, іншых гістарычных звестак не выяўлена.

**Міхаўшчына.** Засценак, які існаваў у пач. XX ст. Знаходзіўся ў наваколлі сучаснай базы Нацыянальнага парку "Дрывяты". Ніякай гістарычнай інфармацыі пра засценак не выяўлена.

**Вязкі.** Невялікая вёска на ўсход ад турбазы "Браслаўскія азёры". На некаторых картаграфічных матэрыялах XIX ст. называлася як Вялікія Дубкі. У пачатку XX ст. - засценак, 38 жыхароў. Паводле перапісу 1931 г. - калонія, 12 хат, 61 жыхар.

**Дубкі.** Невялікая вёска на ўсход ад в.Вязкі. У XIX ст. ужывалася і назва Малыя Дубкі. У 1789 г. - засценак Укольскага войтаўства Браслаўскага старосва, дзве гаспадаркі: Сымона Станкевіча і Сцёпкі Цімашонка, якія апрацоўвалі 3/4 валокі. У XIX - нач. XX ст. таксама лічыліся засценкам. У 30-х гг. XIX ст. меліся дзве гаспадарскія хаты: адна належала Яну і Стафану Зямцам, другая Якубу Лявонавічу. У трэцяй хаце жылі кутнікі. Пры Дубках знаходзілася карчма Баравая ці Бароўка. Зімой побач пралягаў шлях з Браслава ў Глыбокае. У пач. XX ст. у Дубках налічвалася 15 жыхароў. У 1931 г. - засценак, 4 двары, 29 жыхароў. Побач з Дубкамі выяўлена стаянка людзей эпохі неаліту.

**Баравічызна.** Засценак, які пазначаўся на картах пач. XX ст. Размяшчаўся на ўсход ад в.Дубкі за ракой Друйкай. Гістарычных матэрыялаў не выяўлена.

**Азяраўцы.** Адна з самых вялікіх вёсак каля возера Дрывяты. Паводле сведчанняў старажылаў вёску ў 1-й палове XIX ст. заснавалі ўладальнікі маёнтка Бяльмонты Плятэры. Нібы яны перасялілі сюды некалькі сем'яў з вёскі Азяравы на поўдні Браслаўшчыны. Жыхары новай вёскі хацелі назваць новае паселішча Азяраўцы, а ўладальнікі маёнтка настойвалі на назве Новае Сяло. Абедзве назвы ўжываліся паралельна доўгі час. На самой справе, на картах пач. XX ст. вёска пазначана як Новае Сяло. У архіўным дакуменце 1844 г. згаданы кавалак зямлі "... *где ныне построена деревня Озеравцы, называемая и Дольные Ахремовцы, принадлежащая ныне к имению Бельмонты*". На планах і картах XIX ст. сустракаецца яшчэ адна назва - Ніжнія Ахрэмы. У некаторых дакументах XIX ст. замест Дольныя ці Ніжнія памылкова пісалі Дальнія Ахрэмаўцы.

У 1875 г. сяляне Азяраўцаў пачалі працэдуру выкупу зямлі ва ўласнасць. 16 гаспадарак выкупалі 236 дзесяцін 2202 сажняў зямлі (дзесяціна - 1, 0925 га, сажань - 2, 134 м). Кошт зямлі складаў 4705 рублёў серабром. Сяляне атрымалі пазыку ад дзяржавы на 49 гадоў (па 285 руб. штогадовых выплат). Названы наступныя гаспадары: Тадэвуш Маліноўскі, Юрый Лібік, Усцін Дуброўскі, Войцех Пяткун, Максім Сіротка, Вікенцій Багдановіч, Якаў Сіротка, Сцяпан Трач, Іосіф Баравік, Юрый Пяткун, Іван Пяткун, Іосіф Кукян, Міхаіл Раманцэвіч, Васіль Хадорка, Казімір Варна, Антон Грыбко, Ігнат Баравік. Паводле плана 1885 г. вёсцы належала яшчэ 37 дзесяцін 287 сажняў няўжыткаў (пад могілкамі 160 сажняў, пад балотамі 33 дзесяціны 1730 сажняў, пад рэчкамі 1 дзесяціна 1001 сажань, пад дарогай 1 дзесяціна 2196 сажняў). У пачатку XX ст. Азяраўцы мелі 217 жыхароў, у 1931 г. - 44 двары, 217 жыхароў.



З плана в.Азяраўцы. 1885 г.

**Ахрэмаўцы.** Самая вялікая прыбярэжная вёска і адно з буйнейшых паселішчаў Браслаўскага раёна (каля 1,5 тыс. жыхароў у 1999 г.). У гістарычных крыніцах вядомы пад назвамі Ахрэмаўцы, Ахрэмы, Верхнія Ахрэмаўцы. Назва паходзіць ад прозвішча Ахрамавічаў, якія валодалі тут землямі ў XVII ст. Такую назву меў і маёнтак, які ў палове XVIII ст. стаў называцца Бяльмонты. У 1784 г. "*вёска з карчмой пры Рыжскім гасцінцы, які праходзіць праз Браслаў*" Бяльмонцкай парафіі, належала Гільзенам. У пачатку XX - 300 жыхароў, у 1931 г. - 74 двары, 360 жыхароў.

**Бяльмонты.** Маёнтак, які пад такой назвай існаваў ад паловы XVIII ст. да 1939 г. Пазней вёска, якая з 1976 г. далучана да в.Ахрэмаўцы. Даўнія назвы - Альгердоўшчына, Ахрэмаўшчына, Нябервіца. Маёнтак належаў Гільзенам, Мануццы, Плятэрам. Існаваў мураваны палац з паркам і цэлы комплекс пабудоў. У 50-я гады XX ст. дзейнічала МТС.

Маёнтку Бяльмонты прысвечаны №№ 54, 55 выдання "Павет".

**Лушня.** Засценак, які існаваў на тэрыторыі сучаснага паўвострава Ушына (гістарычная назва Бона). Гістарычных матэрыялаў не выяўлена.

**Разета.** Вёска на паўднёвым беразе возера, ад назвы якой паходзіць назва заліва - Разетская лука. У XIX ст. згадваецца іншая назва - Лупяны. Не выключана, што гэта назва суадносіцца з засценкам Лапяшнікі на землях маёнтка Бяльмонты, згаданага ў 1784 г. Магчыма, што назву Разета паселішча атрымала ад графа М.Мануццы ў гонар Разецкага каменя, знойдзенага ў Егіпце ў канцы XVIII ст., калі граф-італьянец стаў уладальнікам маёнтка Бяльмонты (падрабязней пра гэта - "Павет" № 54, студзень 2007 г.). У пачатку XIX ст. мелася 10 двароў. У 1931 г. - 44 двары, 214 жыхароў.

**Дукелі.** Вёска на паўднёвым беразе возера, ад назвы якой паходзіць назва заліва - Дукельская лука. Належала да Опсаўскага староства, уладальнікам якога быў граф М.Мануццы. Назва можа паходзіць ад княства Дукля, якое было залежна ад Венецыянскай Рэспублікі (Венецыя - родны горад М.Мануццы). Сучасная назва Duклі-Чарнагорыя (падрабязней пра гэта - "Павет" № 54, студзень 2007 г.). У 1779 г. заселена сем'ямі баяраў Гжэгажа Арцёма, Лукаша і Ежы Скур'ятоў, работнікаў Мацея Алексніна і Арцёма Калацэя. У 1784 г. - вёска з засценкам той жа назвы, графа Мануццы адносілася да Браслаўскай парафіі. У XIX ст. Дукелі былі своеасаблівым азёрным портам: адсюль графы Плятэры, уладальнікі Бяльмонтаў, наладзілі шарашовы сплаў драўніны

праз Друйку да Заходняй Дзвіны.

У пачатку XX ст. - 105 жыхароў. У 1931 г. - 21 двор, 144 жыхары. З в.Дукелі паходзіць сучасны польскі кампазітар, дырыжор вайсковага аркестра Баляслаў Шулья, які жыве ў Варшаве.

**Ляйпішкі**. Засценак, які існаваў на паўднёвым беразе возера Дрывяты. Цяпер гэта ўрочышча. З узвышша берага вельмі прыгожыя віды на возера і Браслаў, які размешчаны насупраць. У пачатку XX ст. 17 жыхароў. У 1931 г. - 2 двары, 10 жыхароў.

**Шалтэні.** Колішняя даволі вялікая вёска, ад якой засталося некалькі двароў. Адносілася да Опсаўскага староства. У 1779 г. складалася з 4 гаспадарак баяраў Міхала, Юзафа, Уладзіслава, Ежы Петкуноў. Побач размяшчаўся засценак Шалтонішкі з баярскім дваром Ежы Юрана. У 1784г. - вёска і фальварак на землях графа М.Мануццы Браслаўскай парафіі. У 1797 г. суд разглядаў справу аб дазволе жыхарам вёсак Шалтэні і Дукелі карыстацца возерам Дрывяты. Вёскі адносіліся да Опсаўскага староства, уладальнікам якога быў граф Мануццы, а возера ўваходзіла ў склад Браслаўскага староства дзяржаўнай уласнасці.

У пачатку XX ст. - вёска Опсаўскай воласці, 126 жыхароў. У 1931 г. - вёска Браслаўскай гміны, 27 двароў, 138 жыхароў. У 1938 г. адбыўся вялікі пажар, згарэла ўся вёска. Пасля гэтага Шалтэні былі разнесены па хутарах. Паводле сведчанняў старажылаў назва вёскі паходзіць ад літоўскага слова халодны, сцюдзёны. Непадалёку ёсць балацінка Зімнік, дзе вада заўсёды сцюдзёная. Заснавалі вёску Петкуны і Скур'яты, пазней дабавіліся Шульі, Жукі і Баравікі. Пад прыгонам не былі, зямля ад дзядоў і прадзедаў належала гаспадарам.

Непадалёку ад в.Шалтэні размяшчалася летняя база польскіх памежнікаў (КОР), дзе адбываліся зборы вайскоўцаў і моладзі. База мела пабудовы для жылля, размяшчэння маёмасці, кузню і інш.

**Пузыры.** Вёска ў паўднёва-заходняй частцы возера. У XVIII - пач. XIX стст. згадваецца як вёска Залескага войтаўства Браслаўскага староства. У 1789 г. было 8 гаспадарак: Мацея Бараноўскага, Тамаша Наважынскага (былога віленскага мешчаніна), Яна Шаўлюна, Лукаша Шынкевіча, Барталамея Банкевіча, Вінцэнта Навіцкага, Эліяша Пузыроўскага, Сымона Юхневіча. Да вёскі адносілася 6 валок зямлі (валока - 21, 36 га). Побач размяшчалася карчма Пузыроўская (у 1789 г. 240 злотых арэнды). На плане 1814 г. назначана "*деревня истреблённая Пузыри*". Верагодней за ўсё, была знішчана ў час вайны 1812 г. У пачатку XX ст. - 108 жыхароў. У 1931 г. - 20 двароў, 91 жыхар.

**Рацкі Мост.** Хутар, які існаваў каля в.Пузыры. У пачатку XX ст. не згадваецца. У 1931 г. - 1 двор, 7 жыхароў.

**Краснасельцы.** Вёска на ўзгорыстым заходнім беразе возера Дрывяты. Была зручна размешчана каля разгалінавання ажыўленых Рыжскага і Віленскага гасцінцаў. Прыблізна ў гэта месца меркавалася перанесці Браслаў у другой палове XVI ст., каб мястэчка магло без перашкоды пашырацца і мець свой порт. Плануецца, што ў перспектыве вёска будзе далучана да Браслава.

З апісання павіннасцей сялян в.Краснасельцы. Канец XVIII ст.

У гістарычных крыніцах сустракаюцца і іншыя назвы: Красна, Краснаселле. У 1789 г. вёска Залескага войтаўства Браслаўскага староства, згаданы 22 гаспадаркі. У гэты час Краснасельцы з'яўляліся самай вялікай вёскай Дрывяцкага наваколля. Сярод прозвішчаў сялян: Драбовіч, Драбун, Аляксніп, Лонскі, Матуль, Мацеша, Чарняўскі, Паўлоўскі, Жораў.

Да вёскі адносіўся засценак Філіпаўшчына. Усяго мелася 16 1/4 валокі зямлі. Побач з вёскай размяшчалася Краснасельская карчма (у 1789 г. 640 злотых арэнды). Паводле апісання пачатку XIX ст. карчма складалася з асноўнай хаты (9 х 9 аршын), стадолы, мелася "*винокурня совершенно ветхая, к винокурению неспособная*".

У канцы XVIII ст., у час паўстання Т.Касцюшкі ці пры іншых ваенных дзеяннях "*Браслав и д.Красно, проходящими через оные войсками сожжены*".

У XIX ст. існавала тайная польская школа. У пач. XX ст. - 284 жыхары. У 1931 г. - 44 двары, 244 жыхары.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ў наваколлі вяліся жорсткія баі Чырвонай Арміі з гітлераўцамі, якія абаранялі выхад да Дзвінска (сучасны Даўгаўпілс).

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Пастовы)